№ 75 (4122)

27 верасня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Сёння — апошні дзень, калі яшчэ можна падпісацца на «Народную Волю», з тым каб атрымліваць яе з 1 кастрычніка.*

ПАДЛІЧЫЛІ...

## Сярэдні заробак – у эквіваленце крыху больш за 380 долараў

*Згодна са свежымі звесткамі Белстата, сярэдні заробак у Беларусі за жнівень 2016 года склаў 750 рублёў 30 капеек, альбо 382,7 долара па курсе на 1 верасня.*

У рублях гэта толькі 96,1% ад сярэдняга заробку ў жніўні 2015 года (у доларах – 95,8%). Сярэдні заробак за першыя 8 месяцаў 2016 года склаў 711 рублёў 40 капеек – 95,9% ад такога самага перыяду летась.

Найбольшы сярэдні заробак за жнівень 2016 года – 1022 рублі 80 капеек – у Мінску. Ён упаў не так моцна, толькі на 1,7% да жніўня 2015 года. Найменшы – 645,3 рубля – у Магілёўскай вобласці. А самае значнае падзенне – на 7,2% (да 650,6 рубля) – у Гродзенскай вобласці.

Найвышэйшы сярэдні заробак традыцыйна ў IT: 3304 рублі за жнівень, 3523,5 рубля за студзень–жнівень. Ён нават вырас на 14,2% у параўнанні з восьмым месяцам 2015 года.

Найменей атрымліваюць работнікі галіны культуры – бібліятэк, архіваў, музеяў. У іх за жнівень было 418,7 рубля, што склала 95,3% да леташняга жніўня. Крыху больш догляда́м у спецыялізаваных установах ці аказвае сацыяльныя паслугі: 423,8 рубля, што склала 93,8% да жніўня мінулага года.

Самае значнае падзенне заробкаў – у сельскай гаспадарцы: мінус 11,8% да леташняга жніўня. Тым, хто працуе з раслінамі, пашчасціла меней, чым тым, хто працуе з жывёламі. За жывёлагадоўлю ў жніўні 2016 года давалі на 10,3% меней, чым у жніўні 2015 года (533 рублі), за расліны – аж на 13,5% меней (618,7 рубля).

ВОСТРАЯ ТЭМА



## Михаил ЧИГИРЬ, экс-премьер:

– Не надо что-то изобретать. Нужно взять опыт других стран и делать то, что делали они. Я предлагал еще на первом Всебелорусском собрании попытаться реформировать сельское хозяйство. Мы же его добиваем, оно держится на глиняных ногах. Там остаются еще герои, которые работают за мизерные зарплаты. Их не станет, что дальше будет? Есть мировой опыт развития экономики. Надо переходить на частную собственность на землю.

*(Из интервью 20 сентября 2016 г. Радио Свобода.)*

ПРИГЛАШАЕМ К ДИСКУССИИ

## Частная собственность на землю: вопрос созрел?

На страницах «Народной Воли» этот архиважный вопрос ставится не впервые. Неслучайно мы не оставили незамеченным и высказывание такого известного в стране экономиста, как бывший председатель правительства Михаил Николаевич Чигирь.

Действительно, земле, как и всему сельскому хозяйству, нужен хозяин. Не временщик, не поденщик, а собственник. Как реформировать аграрный сектор? Как «ничейное», коллективное без потрясений превратить в частное со всей личной ответственностью не только перед собой, но и перед государством? И вообще, эти и другие острейшие вопросы, связанные с землей, нужно рассматривать отдельно или в комплексе с другими экономическими проблемами?

«Народная Воля» рассчитывает на активное участие в заинтересованном разговоре всех, кого волнует судьба села, а это значит, судьба всей страны. Пишите, звоните, заходите…

**Редакция газеты «Народная Воля».**

РАЗБОР ПОЛЕТОВ

## Отменить досрочное голосование и установить камеры!

*О том, что в Беларуси давно назрела необходимость изменить избирательное законодательство, в последние годы не высказывался только ленивый. Кампания «Говори правду!» проанализировала итоги минувших парламентских выборов и передала свои соображения по совершенствованию Избирательного кодекса в Центризбирком.*

**ВОТ ЧТО КОНКРЕТНО ПРЕДЛАГАЕТСЯ:**

**1.** Прописать в Избирательном кодексе процедуру открытого и гласного подсчета голосов, при которой каждый член участковой избирательной комиссии и каждый наблюдатель последовательно видят содержимое каждого подсчитываемого бюллетеня.

**2.** Предоставить право каждому зарегистрированному кандидату направлять своего представителя в состав избирательных комиссий с правом решающего голоса.

**3.** Исключить формирование избирательных комиссий за счет людей, работающих в одном трудовом коллективе или связанных между собой отношениями «начальник-подчиненный».

**4.** Отменить досрочное голосование.

**5.** Разрешить на парламентских выборах формирование избирательного фонда кандидата в депутаты с момента регистрации инициативной группы.

**6.** Разрешить проведение пикетов и встреч с избирателями с момента объявления выборов. Такие пикеты и встречи должны регулироваться Избирательным кодексом, а не законодательством о массовых мероприятиях.

**7.** Разрешить знакомство избирателей с программами потенциальных кандидатов уже на этапе сбора подписей. Разрешить на этом этапе изготовление печатной продукции и определить места для ее размещения.

**8.** Разделить документы, предоставляемые потенциальным кандидатом для регистрации, на основные и сопровождающие. Основные – это подписи избирателей или протокол выдвижения. Декларация о доходах, другие документы – сопровождающие. Ошибки в них не могут вести к отказу в регистрации, а просто должны устраняться в ходе проверки.

**9.** Предоставить возможность кандидату самому определять, что и как о нем должно быть написано в официальной листовке, пусть даже в рамках заданного формата.

**10.** Не указывать в официальной биографии кандидата о факте судимости, если она снята.

**11.** Увеличить количество доверенных лиц кандидатов в президенты до 50, а кандидатов в депутаты парламента – до 30.

**12.** Усовершенствовать механизм голосования по месту нахождения избирателя. Прописать следующие возможности: 1) по личному заявлению избирателя; 2) в отдаленных от помещений участков для голосования населенных пунктах предусмотреть выезд комиссии с переносными ящиками и кабинами для тайного голосования с заранее обнародованным почасовым и поминутным графиком объезда таких населенных пунктов.

**13.** Лишить председателя участковой избирательной комиссии права самолично удалять наблюдателя с участка. Решение о лишении наблюдателя аккредитации должно приниматься только на заседании участковой избирательной комиссии.

**14.** Установить на участках для голосования камеры фиксации явки избирателей.

КОНКУРС



## Ганна і карона Палесся

У Лельчыцах адбыўся конкурс «Прыгажуня Палесся-2016». Тытул найпрыгажэйшай дзяўчыны Палескага рэгіёна атрымала **Ганна Мяшкова** з Петрыкава. Дзяўчына з'яўляецца першакурсніцай Брэцлаўскага тэхнічнага ўніверсітэта.

За карону змагаліся 14 канкурсантак з Хойнікаў, Нароўлі, Мазыра і Лельчыцаў. Яны дэманстравалі мастацтва дэфіле ў нацыянальных строях, вясельных суkенках, эксклюзіўных дызайнерскіх уборах і ў футры айчынных вытворцаў.

**Кірыл БУБНАЎ.**

АФІЦЫЙНА

## Макей сустрэўся з амерыканскім дыпламатам

*Міністр замежных спраў Беларусі правёў сустрэчу з Часовым Паверанным у Справах ЗША **Робертам Райлі**.*

Паводле інфармацыі прэс-службы МЗС, сустрэча адбылася ўчора, 26 верасня, у Мінску з нагоды пачатку дыпламатычнай дзейнасці Райлі ў Беларусі. Паведамляецца, што бакі абмеркавалі стан беларуска-амерыканскіх адносін і перспектывы іх развіцця.

Роберт Райлі прыбыў у беларускую сталіцу 22 жніўня і змяніў на пасадзе кіраўніка амерыканскай дыпмісіі **Скота Роланда**. Да прызначэння ў Мінск ён выконваў абавязкі намесніка амбасадара ЗША ў Венгрыі.



РЭГІЁН

## У Віцебску перанясуць помнік Уладзіміру Караткевічу

Помнік Караткевічу зараз знаходзіцца на перакрыжаванні вуліц Суворава і Чэхава. У сувязі з будаўніцтвам у горадзе Сафійскага сабора Віцебск чакаюць тэрытарыяльныя змены. Так, парк Партызанскай славы будзе зрэзаны ўздоўж, каб з'яднаць вуліцы Гагарына з Чэхава і вывесці да запланаванага Паўночнага моста праз Дзвіну абводную дарогу.

– *Такое адчуванне, што віцебскія ўлады – гэта сапраўдныя ворагі народа,* – напісала на старонцы ў "Фэйсбуку" каардынатар аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" ў Віцебску Таццяна Севярынец.

На пытанне мясцовых жыхароў, куды будзе перанесены помнік беларускаму пісьменніку, намеснік галоўнага архітэктара Віцебска Леанід Багданаў адказаў: «*Ну, недзе паставім*».

Жыхары горада ўжо сабралі больш за 5000 подпісаў у абарону славутасці.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

СЛЫШАЛИ?

## В Беларусь без визы

***По словам заместителя министра спорта и туризма Михаила Портного, документ о безвизовом въезде в Беларусь для граждан стран, безопасных в миграционном плане, может вступить в силу уже в этом году.***

Портной считает, что две основные причины, по которым в Беларусь не попадают большие деньги от туризма, это визы и отсутствие инфраструктуры. Документ, отменяющий визы, должен решить первую проблему.

Как сообщалось, летом Минспорта, МИД и Минэкономики инициировали введение безвизового режима до пяти дней пребывания для иностранных граждан, прибывающих в Беларусь через национальный аэропорт Минск. В списке 80 стран.

На сегодня в Беларуси отменены визы для туристов, посещающих Беловежскую пущу, Августовский канал. Безвизовый режим работает для граждан Израиля, Катара, ОАЭ и Китая.

НАВІНКА!



## «Вітаўт» – у Берліне

"Вітаўт"... Што і казаць, прыгожую назву займеў першы электробус, які ў гэтыя дні мінскі завод "Белкамунмаш" дэманструе ў Берліне на міжнароднай транспартнай выставе. Ён названы ў гонар нашага легендарнага князя Вітаўта.

Паглядзіце на здымак: электробус мае сучасны дызайн, можна сказаць, футурыстычны. Панарамны агляд як для вадзіцеля, так і для пасажыраў. Салон можа змясціць каля 150 чалавек.

Калі электробусы з'явяцца на маршрутах сталіцы Беларусі? Першыя 18 машын – бліжэй да лета 2017 года. Вялікі поспех напаткае калектыў завода "Белкамунмаш", калі ён паставіць на патточную вытворчасць электробусы раней, чым гэта зробяць у іншых кропках СНД.

У рух машыну прыводзіць магутная электрычная батарэя. На яе падзарадку неабходна ўсяго 6 хвілін. Прыбыў вадзіцель на канцавы пункт маршруту, пакуль адзначаецца ў дыспетчарскай – электробус зноў гатовы ў дарогу. Асаблівa рады такому аўтаномнаму і экалагічна чыстаму гарадскому транспарту "зялёныя" – праблема забруджвання паветра ў мегаполісах стаіць надзвычай востра.

Заўважым, у планах белкамунмашаўцаў выпуск тралейбусаў, якія змогуць праязджаць 10–15 кіламетраў на акумулятарах. Гэта на той выпадак, калі ў кантактнай сетцы знікне электрычнае напружанне.

Адным словам, не спяць у шапку мінскія машынабудаўнікі.

**Вольга КАТУЖАНЦАВА.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Нефтегазовый узел

Очередной газовый торг с Россией за снижение цены правительство Беларуси ведет практически с января. А все дело в кратном снижении мировых цен на нефть и газ за последние два года.

Беларусь перестали устраивать газпромовские цены. И в этом есть свой резон. Еще не так давно страны ЕС платили «Газпрому» долларов на 200 больше. А теперь эта разница растаяла до 30–40 долларов. За два года российский энергетический бонус сошел на нет. В этом году «Газпром» пересмотрел цены для немецкого покупателя компании Uniper, французской Engie. Требуют снижения цены польская PGNiG и турецкая Botas. Сначала белорусская сторона пыталась скромно выторговать скидку примерно в 10 долларов с цены 132 доллара за тыс. куб. метров. Позже самовольно стала платить за газ 73 доллара за тыс. куб. – по тарифу ближайшей Смоленской области. Накопился долг не менее 300 млн долларов. Россия, естественно, не согласилась. И требует при любом исходе переговоров долг погасить.

Если она даст слабину в этом вопросе, по белорусскому образцу могут поступить другие покупатели газа из СНГ.

В отместку за непогашение долга россияне в 3-м квартале сократили поставки нефти с 5,3 млн тонн до 3,5 миллиона. В 4-м грозятся урезать поставки до 3 млн тонн. Только в июле нефтяные поставки обвалились на 37,6%. В итоге за 3-й квартал белорусский бюджет от сокращения пошлин на нефтепродукты потеряет порядка 200 млн долларов.

В этом году из-за неблагоприятной нефтяной конъюнктуры наш бюджет уже понес большие потери. К примеру, при годовом плане поступлений от пошлин 1 млрд долларов в 1-м квартале получено всего 125 миллионов. Россияне знали, куда нанести удар. Потери от недополученной валюты из-за сокращения поставок нефтепродуктов на экспорт явно превышают выигрыш от недоплат за газ в размере накопившихся 300 млн долларов. Учитывая аховую ситуацию в белорусской экономике, российская сторона, как сообщалось в СМИ, уже готова была пойти навстречу союзнику. Якобы стороны согласовали вместо долларовой рублевую формулу ценообразования на газ со снижением для Беларуси входной цены до 100 долларов в эквиваленте. Однако российский вице-премьер Дворкович дезавуировал эти утверждения, заявив, что переговоры продолжаются. Между тем за август газовый долг Беларуси возрос миллионов на 50 в долларовом эквиваленте, а белорусский ВВП потерял еще больше. В результате ВВП по итогам января–августа ужался уже на 3%, тогда как за полугодие падение было 2,5%. Как же тогда выйти на траекторию роста, о чем не так давно бодро заявлял белорусский премьер?

Главный переговорщик от белорусской стороны вице-премьер Семашко обнадежил, что договоренности по нефтегазовым вопросам вот-вот будут достигнуты, что рассматриваются три варианта решения проблем и т.д. Но вопрос странным образом не решается. Поскольку это не первый торговый конфликт в рамках Союзного государства, как говорится, коню понятно, что снова нужно искать его политическую подоплеку. Дворкович просто выполняет распоряжения Кремля. Конфликт и вышел на политический уровень. Встретившись в Минске с госсекретарем Союзного государства Рапотой, руководитель Беларуси вполне себе раздраженно высказался о наболевшем. *«Мы это воспринимаем как давление на Беларусь, но давления я не потерплю, и белорусы тоже»*, – заявил Лукашенко. А в развитие очень прозрачно намекнул, что Беларусь может пересмотреть уровень своего участия в Союзном государстве и Евразийском экономическом союзе.

Понятно, что Москва в очередной раз решила наказать строптивого союзника не только за то, что он в одностороннем порядке снизил оплату газа, но и за чересчур самостоятельную политику Беларуси в отношении Украины (визит министра иностранных дел Макея в Украину на 25-летие украинской независимости) и в отношении Запада. Можно припомнить и несговорчивость белорусского руководства в отношении продажи некоторых белорусских предприятий типа МЗКТ, и кое-что иное.

Сейчас аналитики гадают, чем закончится конфликт? А тем, чем они заканчивались и ранее. Обеим сторонам невыгодно доводить дело до точки кипения. Ясно, что недопоставки нефти на белорусские НПЗ под корень подрубят и так еле живую нашу экономику. Скорее всего, Россия снизит цену на газ до желаемых нами 100 долларов, хотя это принесет потери «Газпрому» порядка 500 млн долларов.

Но вот газовый должок, видимо, придется погасить. Возможно, Путин согласится на рассрочку. Рассчитаться в один момент белорусское правительство уже не в силах. Придется задействовать золотовалютные резервы. Но правительство ожидает спасительный третий транш кредита в 300 млн долларов от того же Евразийского банка с российскими деньгами. Кредитные транши банка обусловлены обязательствами Нацбанка по росту этих резервов. Не случайно, чтобы достигнуть их величины в 4,7 млрд долларов, Министерство финансов и Нацбанк усиленно занимали и занимают валюту на внутреннем рынке у банков и населения, наперегонки интенсивно тиражируя и размещая свои валютные облигации. Так, на 1 января 2017 года величина золотовалютных резервов должна быть не менее 4,9 млрд «зеленых», на 1 июня – не менее 5,2 млрд, и на 1 января 2018 года – не менее 5,4 млрд долларов. Вот и получается: не отдашь 300 млн газового долга – не получишь 300 млн кредитного транша, а значит, не рассчитаешься по госдолгу за текущий 2016 год. Замкнутый круг.

ЗА ПРАХАДНОЙ

## На «Нафтане» замарозілі рост заробкаў

*Складанасці на навапалоцкім прадпрыемстве ўзніклі з-за скарачэння паставак нафты з Расіі.*

Таксама фінансавыя цяжкасці звязаны з сусветным падзеннем коштаў на нафту. На прадпрыемстве цяпер ідзе працэс мадэрнізацыі, але з-за сітуацыі, якая склалася, тэрміны здачы некаторых праектаў будуць перанесены.

*– Паменшылася перапрацоўка, адпаведна зменшыўся і прыбыtak*, – адзначае старшыня Беларускага Незалежнага прафсаюза на ААТ «Нафтан» Генадзь Варона. – *Тым часам на заводзе праўваецца рэканструкцыя. Так што праблемы ёсць. Рост заробкаў замарожаны: цэны растуць, а заробак застаецца на ранейшым узроўні. У некаторых цэхах ёсць нават нявялікае падзенне.*

Паводле слоў работнікаў прадпрыемства, сярэдняя зарплата на заводзе складае каля 600–700 рублёў.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

ЧУЛІ?

## Магчыма карэкціроўка графіка будаўніцтва Беларускай АЭС

*"Гэтыя пытанні цяпер з генпадрадчыкам прапрацоўваюцца»*, – заявіў учора намеснік міністра энергетыкі Міхаіл Міхадзюк на 60-й сесіі Генеральнай канферэнцыі МАГАТЭ ў Вене.

Як вядома, пасля нештатнай сітуацыі на пляцоўцы БелАЭС, якая адбылася 10 ліпеня, калі корпус рэактара праслізнуў па стропах і павіс дыяганальна, дакрануўшыся да зямлі, Беларусь прыняла рашэнне замяніць гэты корпус рэактара. «Росатом» у сваю чаргу заявіў, што гатовы замяніць яго.

Беларуская АЭС будзе складацца з двух энергаблокаў магутнасцю 1200 МВт кожны. Пуск першага энергаблока запланаваны на 2018 год, другога – на 2020 год. Генпадрадчыкам будаўніцтва АЭС з'яўляецца «Атомстройэкспорт» – структура «Росатома».

МЕДСПРАВКА

## Новым томографом обзавелась 10-я больница Минска

Кабинет МРТ открывали торжественно – с перерезанием красной ленточки, аплодисментами, присутствием высоких гостей. В мероприятии участвовали председатель комитета по здравоохранению Мингорисполкома **Игорь Юркевич**, глава администрации Заводского района **Александр Дорохович** и главный врач больницы **Виктор Исачкин**. Отмечалось, что аппарат такого класса в столице есть только в РНПЦ «Мать и дитя». Стоит он, к слову, немало – свыше 4262,7 тысячи рублей с учетом деноминации.

Томограф Philips Ingenia 1,5T имеет в основе сверхпроводящий магнит, на нем можно сделать МРТ головного и спинного мозга, суставов и связочного аппарата, межпозвонковых дисков, паренхиматозных органов брюшной полости, желчевыводящих протоков, забрюшинного пространства, органов малого таза, а также всего тела.

Исследование на новом аппарате будут выполнять не только пациентам 10-й клиники. На платной основе его может сделать любой желающий. Но обязательное условие – направление или хотя бы рекомендация врача. Стоит услуга от 34 до 151 рубля.

**Анна ГОНЧАРИК.**

ЖАХ!

# Бізнесмена застрэлілі каля дома і спалілі ў ягоным аўтамабілі




*На выездзе з Беразіно Мінскай вобласці раніцай знайшлі спалены аўтамабіль з трупам на месцы кіроўцы. На месцы трагедыі, якая адбылася ў 7.00, да гэтага часу працуюць эксперты, следчыя, міліцыя і МНС.*

*«Мясцовы бізнесмен выехаў з дома, у яго ёсць дом на ўскраіне ля лесу. Яго там непадалёк тармазнулі, застрэлілі, машыну падпалілі. Міма ехаў мясцовы пажарны на работу, бачыць, стаіць машына, з яе дым ідзе. Адчыніў дзверы, пабачыў цела, паспрабаваў яго дастаць, па ім з лесу страляць пачалі, каб адагнаць ад машыны. Ён у машыну, па газах – і ў міліцыю»*, – паведаміў TUT.BY мясцовы жыхар Вадзім.

Паводле слоў яшчэ аднаго мясцовага, прыяцеля Вадзіма, увагу выратавальніка, які праязджаў міма, прыцягнуў дым з-пад капота Audi Q5. Каля аўтамабіля мужчына ўбачыў «чалавека з падпаленай анучай, які кінуў яе на капот і ўцёк у лес».

Падобна на тое, яго напалохаў выратавальнік, у якога сапраўды сталі страляць з лесу, кажуць крыніцы. Але ён, паводле слоў мясцовых жыхароў, мужчыну ў аўтамабілі ўжо нічым бы не дапамог, нават калі б паспеў дастаць, – у салоне аўто быў труп з агнястрэльнымі раненнямі.

Мясцовыя жыхары кажуць, што загінуўшага ведае ўвесь горад: мужчына быў вельмі заможным прадпрымальнікам. У Беразіно ўсе трымаюцца версіі заказнога забойства.

Афіцыйных каментарыяў учора было пакуль няшмат.

*– У 7.09 нам паведамілі, што на выездзе з Беразіно на трасе Барысаў–Беразіно–Бабруйск гарыць адкрытым полымем аўтамабіль. Супрацоўнікі РАУС разам з калегамі з іншых ведамстваў знайшлі ў салоне труп мужчыны. Яго асоба пакуль не ўстаноўлена*, – цытуе news.tut.by прэс-сакратара УУС Мінаблвыканкама **Яўгена Сачака**.

Выратавальнікам пра здарэнне паведамілі на хвіліну раней: *«Падраздзяленні МНС выехалі на месца і аператыўна патушылі аўтамабіль, які гарэў адкрытым полымем. У салоне быў знойдзены труп мужчыны»*, – паведаміў прэс-сакратар МНС **Віталь Навіцкі**.

*– На месцы здарэння працуе следча-аператыўная група. Усталёўваюцца абставіны смерці мужчыны, труп якога быў знойдзены ў салоне згарэлага аўтамабіля*, – паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па рэгіёне **Таццяна Беланог**.

КАЛІ ВЯРТАЎСЯ НУМАР...

## У Сяргея Мяцельскага засталося двое дзяцей

Як стала вядома "Народнай Волі", імя загінуўшага бізнесмена – **Сяргей Мяцельскі**. Ён быў жанаты, у яго засталося двое маленькіх дзетак.

Аўтамабіль узарвалі недалёка ад катэджа, дзе ён жыў. Сяргей Мяцельскі нарадзіўся ў Беразіно.

**Паліна ПЛАТОНАВА.**

ПРОЕКТ

# Деревня гипермаркетов откроется не скоро

*У пересечения улицы Казинца и Минской кольцевой дороги давно ведется масштабная стройка. Как выяснила «Народная Воля», там возводят «Деревню гипермаркетов».*




На щите у въезда на строительство указана лишь дата начала работ. О том, когда стройка финиширует, – ни одного слова.

В апреле 2010 года главный архитектор проекта **Виктор Крамаренко** заявил в эфире БТ: *«Через три года в столичном микрорайоне "Курасовщина" появится «Деревня гипермаркетов». Это будут гигантские торговые помещения. А вокруг гипермаркетов разместится небольшой городок с кофейнями, ресторанами, маленькими магазинами. По задумке архитекторов, эта зона пешеходная. Автомобили водители будут оставлять на большой стоянке и пешком направляться за впечатлениями и покупками»*.

О том, что «Деревня гипермаркетов» распахнет свои двери в 2013-м, сообщали и в «Белсвиссбанке». Но пошел уже седьмой год, а до финиша амбициозного проекта еще очень далеко.

Когда же наконец построят огромный торговый объект?

Как сообщил источник, участвовавший и продолжающий участвовать в «проводке» стройки, первоначальной причиной, заморозившей возведение объекта у МКАД несколько лет назад, стало изменение в законодательстве, инициированное Нацбанком. В результате внесенных в банковский кодекс нововведений «Белсвиссбанк» был вынужден выйти из инвестдоговора и передать «Деревню гипермаркетов» организации «Белсвиссинвест».

Формально эта структура не принадлежит банку, но швейцарский учредитель обеих организаций – один и тот же. На аффилированность прозрачно намекают и название, а также адрес, по которому расположен офис организации – она располагается в том же здании, что и банк: на проспекте Победителей, 23, корпус 4.

*«Стройка заморожена в октябре прошлого года. Когда начнутся работы – сказать сложно. Вопрос уперся в выделение допучастка. Пока облисполком не торопится, занимаясь этим вопросом второй год»*, – поведал «Народной Воле» источник, пожелавший остаться неназванным.

О том, что у «Белсвиссинвеста», который и возводит «Деревню гипермаркетов», большие проблемы, подтвердили и в торговом доме «Инструментконплект». Как рассказал юрист этой минской фирмы, она судилась с «инвестиционной компанией» с октября 2015-го, и только в мае этого года «Белсвиссинвест» перевел на счет Торгового дома, поставившего ей строительные инструменты, 10 миллионов. Не долларов, а белорусских рублей...

По словам экспертов, вполне вероятно, что второй (а возможно, и основной) причиной заморозки строительства стал экономический кризис. Из-за того, что активность арендаторов коммерческой недвижимости резко упала, швейцарская фирма поняла, что заполнить огромные торговые площади не удастся. В том числе и по причине возведения в последнее время нескольких масштабных торговых центров, либо пущенных в строй, либо готовящихся принять посетителей. ТЦ Leto, MOMO, Green City, «Гулливер», Dana Mall, «Магнит Минска», Galleria Concept – борьба за арендаторов «Деревне гипермаркетов» предстоит весьма и весьма серьезная.

К сожалению, в компании-застройщике туман над «Деревней» не развеяли. *«Директор в командировке и будет через месяц»*, – сказали в «Белсвиссинвесте».

Судя по всему, еще месяц продвижения проекта не будет вовсе. А ведь даже если в ближайшую неделю Минский облисполком выдаст все разрешения и с 1 октября «Белсвиссинвест» приступит к работе над объектом, который на одном из рекламных щитов называется уже «Торговая галерея «Сеница», то открыть свои двери он сможет весьма и весьма не скоро.

*«Кроме переоформления бумаг на нового инвестора надо еще согласовать выделение дополнительного земельного участка. Так как объект законсервирован, нужен будет еще проект расконсервации и достройки. На это тоже надо время, и немалое. Пока объект готов процентов на 70. Если в этом году все процедуры в исполкоме будут завершены, то стройка может финишировать во второй половине 2018 года»*, – внес ясность в судьбу проекта собеседник «Народной Воли».

А пока на стройплощадке гуляет ветер и незлобно лают собаки-охранники...

**Олег ШЕПЕЛЮК.**

КАДРЫ

## Мікалай Корбут – памочнік Аляксандра Лукашэнкі



Гэта пасада была вакантнай больш за год пасля адстаўкі Аляксандра Радзькова ў маі 2015 года.

Праўда, і да гэтага прызначэння Мікалай Корбут працаваў памочнікам Лукашэнкі, толькі па Мінскай вобласці. А яшчэ раней, з 2001-га па 2009 год, – першым намеснікам кіраўніка спраў прэзідэнта, з 2009-га па 2013 год – кіраўніком спраў прэзідэнта Беларусі. У 1994–2001 гадах Мікалай Корбут – узначальваў упраўленне па абслугоўванні дыпламатычнага корпуса і афіцыйных дэлегацый «Дыпсэрвіс» Кіраўніцтва справаў прэзідэнта.

Дарэчы, брат Мікалая Корбута Аляксандр – намеснік міністра лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

Народная Воля http://www.nv-online.info 27 ВЕРАСНЯ 2016 г.

АКТУАЛЬНАЯ ТЕМА

# За воду придется платить по полной!

*Владельцы пустующих и не оборудованных счетчиками квартир с 1 октября будут платить за воду весьма значительные суммы.*




По словам замначальника ЦРП «Водосбыт» УП «Минскводоканал» **Лии Перевалушко**, количество израсходованной воды будет определяться, исходя из нормативов потребления, установленных местными исполнительными и распорядительными органами, и условного количества граждан, определенного путем деления общей площади жилого помещения на 20 куб.метров с учетом округления в меньшую сторону до целого числа.

«Плата будет взиматься по тарифам, обеспечивающим полное возмещение экономически обоснованных затрат: 1,1405 рубля за 1 куб.метр в месяц (водоснабжение – 0,6875 рубля, канализация – 0,453 рубля), – *приводит конкретные цифры сайт vminsk.by.* – Вот примерный расчет начисления для квартиры площадью 72 кв.метра, в которой нет зарегистрированных жильцов и счетчиков. Так, 72 куб.м: 20 куб.м = 3 условно зарегистрированных (с округлением в меньшую сторону до целого числа). Каждый из них потребляет 260 л в сутки, или 7,8 куб.метра в месяц (при условии, что в нем 30 дней). Итого: 3 х 7,8 х 1,1405 рубля = 26,6877 рубля. Такая сумма будет проставлена в жировке. Даже если площадь жилища составляет 79 кв.метра, с округлением получится 3 условных жильца; 80 кв.метров – уже 4».

КСТАТИ

В Минске сегодня 5260 квартир, в которых никто не зарегистрирован и не установлены счетчики воды.

**Полина ПЛАТОНОВА.**

ДА ВЕДАМА

# Едзеш у аэрапорт? Заплаці!

*Уезд на аўто на тэрыторыю Нацыянальнага аэрапорта "Мінск" стаў платным.*

Пры першым і другім за суткі наведванні аэрапорта аўтамабіль можа бясплатна знаходзіцца на яго тэрыторыі да 20 хвілін. Пры трэцім і больш візіце кіроўцу аўто давядзецца заплаціць, згодна з тарыфам, з моманту ўезду на тэрыторыю аэравакзала. Бясплатны ліміт пры гэтым прадастаўляцца не будзе.

Калі аўтамабіль падчас першага ці другога ўезду пратэрмінуе бясплатны ліміт, то кіроўца будзе вымушаны заплаціць. Кожная поўная або няпоўная гадзіна знаходжання на тэрыторыі Нацыянальнага аэрапорта будзе каштаваць 10 рублёў. Аплата робіцца ў аўтаматычных касах або павільёне пункта выезду.

У прэс-службе аэрапорта кажуць, што новыя правілы ўводзяцца для забеспячэння максімальна камфортнага перамяшчэння пасажыраў і аўтамабільнага транспарту на тэрыторыі аэрапорта.

АФІЦЫЙНА

# Зліцця МАЗа і КамАЗа не будзе

Пытанне аб аб'яднанні беларускага МАЗа і расійскага КамАЗа пакуль нават не абмяркоўваецца.

Пра гэта паведаміў першы намеснік міністра прамысловасці нашай краіны **Генадзь Свідэрскі**.

Паводле яго слоў, нейкіх канкрэтных крокаў па зліцці двух прамысловых гігантаў чакаць не варта.

«*Тое, што прапаноўвалася, не адпавядала інтарэсам МАЗа,* – цытуе belta.by чыноўніка. – *Планавалася, што агульны рэзідэнт будзе ствараецца на тэрыторыі Расіі, ішла гаворка аб перадачы часткі акцый МАЗа. Але ўмовы не зусім задавольвалі МАЗ*».

Першы намеснік міністра нагадаў пра рэалізуемую праграму развіцця завода. Вядзецца пошук інвестараў для выканання шэрагу яе праектаў. Перамовы вядуцца з кітайскай Zoomlion, еўрапейскімі партнёрамі.

«*Вядзём перамовы ў тым ліку і з КамАЗам, але аб нейкім стратэгічным зліцці зараз гаворка не ідзе*», – рэзюмаваў Свідэрскі.

ЭКСПЕРЫМЕНТ

# У Іны Скуратавай эксклюзіўныя правы

У Беларусі рэалізуецца пілотны праект Міністэрства адукацыі, сутнасць якога даць школам магчымасць самім распараджацца вылучанымі з бюджэту грашыма. Фінансаванне ажыццяўляецца з разліку на тое, колькі сродкаў ідзе на навучанне аднаго школьніка ў год.

Сярод школ, якія задзейнічаны ў эксперыменце, СШ №14 горада Салігорска. Яе дырэктар Іна Скуратава падзялілася з журналістамі мясцовых СМІ першымі высновамі ад удзелу ў праекце. Паводле яе слоў, за няпоўныя 2 гады, што школа ўдзельнічае ў эксперыменце, атрымалася павысіць заробкі настаўнікам, і сёння яны вышэйшыя, чым у іншых школах Салігорска. Установа змагла набыць ноўтбукі, лічбавыя мікраскопы, мультымедыйныя праектары, электронныя дошкі, кнігі і г.д. Акрамя таго, атрымалася абсталяваць бібліятэку і класы новай школьнай мэбляй.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

АСАБІСТАЕ

*Вольга і Павел Севярынцы – пра трагедыю, якая адбылася ў іх сям'і. І як вера ў Бога адгукаецца ў іх сэрцах.*

# ЯНКА.

## Гісторыя аднаго маленькага жыцця

Калідор. Доўгі. Бальнічны. З прыглушаным святлом. Дзесьці каля дванаццатай. Надзіва ціха для радзільні. У прыадчыненых палатах цёмна: усе спяць – мамы, дзеткі. Мне не спіцца, я павольна хаджу па калідоры, малюся: ад вахты, уздоўж карцін з немаўлятамі, у канец, назад, і зноў…

Калі праходжу каля адзінага вялікага акна, заўсёды прыпыняюся: у ім шматпавярховы будынак – цэнтр дзіцячай хірургіі. Наш Янка там…

Мне цяжка, але адначасова вельмі спакойна. Я проста фізічна адчуваю – побач са мной ходзіць Гасподзь.

* * *

Я вельмі хацела дзяцей. Паша таксама, таму я чакала, што першае дзіцё народзіцца ў нас адразу пасля шлюбу. Я не змяняла працу і не будавала нейкіх новых планаў, бо была ўпэўнена, што доўгі час буду займацца дзеткамі.

Я адказна рыхтавалася – загадзя стала прымаць вітаміны, здала аналізы, наведала стаматолага. Мы былі здаровыя, і мне здавалася, што няма ніякіх перашкод, каб нараджаць і расціць дзетак. Усё ішло сваёй чарадой.

У нашай здымнай аднапакаёўцы, дзе мы жывём і зараз, вельмі прыгожы від з акна, шмат дрэў і шмат неба, а па вечарах, калі заходзіць сонца, святло ад суседніх дамоў адбіваецца проста ў вокны нашай маленькай кухні. Памятаю, гэта быў чацвёрты месяц пасля шлюбу – Светлы Тыдзень, дрэвы квітнелі. Я мыла посуд, аб чымсьці думала, разважала, малілася. Мне было вельмі ўтульна ад вечаровага святла, усю мяне напаўнялі цеплыня і шчасце.

І я зразумела, што я – цяжарная. Гэта цяжка перадаць словамі, у гэта цяжка паверыць нават мне самой, тэрмін быў зусім маленькі, але я адчула, як у сэрцы Хтосьці мне пра гэта сказаў.

Гэты момант адзін з самых шчаслівых у маім жыцці – і нават не з-за першага адчування пад сэрцам жыцця, а ад той прыгажосці, ад той прысутнасці побач са мной Кагосьці бязмежна светлага. Заўсёды, калі я ўзгадваю тое імгненне, то радасць і надзея агортваюць маю душу. Я ведаю, што гэта ад Госпада.

Канечне, мне як і кожнай жанчыне хацелася адчуваць, што маё дзіця ўнікальнае, непаўторнае, самае лепшае. І таму тады я гэта пачуццё, гэта святло ўспрыняла як знак дабраславення Божага нашага з мужам кахання і новага жыцця. Але зараз разумею, што гэта было слова ад Бога аб выпрабаванні – Ён проста сказаў, што будзе побач.

Цяжарнасць праходзіла добра. На дванаццатым тыдні мы пайшлі на першы ультрагук. У чарзе было шмат дзяўчат, жанчын, пар. Большасць маўчала, парачкі ціха перашэптваліся. А мы, памятаю, як звычайна, жартавалі, смяяліся. Мы адрозніваліся, я гэта тады заўважыла. Хто ў нас будзе, хлопчык ці дзяўчынка, не абмяркоўвалі, адчувалі – хлопчык. І імя яму ўжо далі – Ян, Янка, Яначка. Назвалі, як апостала, чытаючы ў турме якога Паша прыйшоў да Бога. Мы вельмі любілі нашага сыночка і вельмі радаваліся, што ён з намі.


*Павел і Вольга ў цяжкія хвіліны*

У кабінет УГД нас запрасілі апошнімі. Мы ўбачылі маленькага Янку на экране, галоўка, ручкі і ножкі, усё было добра бачна. Доктар суха падаваў нейкія дадзеныя асістэнтцы, якая запісвала іх у маю карту. А пасля, выціраючы апарат, нават не гледзячы нам у вочы, сказаў, што нам трэба перарываць цяжарнасць, бо ёсць паказчыкі, што дзіця будзе мець сіндром, пакуль толькі цяжка сказаць які.

Паша сказаў, што ніякі аборт мы рабіць не будзем, але нас усё роўна адправілі да генетыка і на нейкія абавязковыя ў такіх выпадках працэдуры. Усё перамянілася. Здавалася, што гэта звычайная памылка. Я доўга праплакала на прыступках у абдымках мужа, нічога не разумеючы. Я не хацела гэтага новага свету прымаць.

З гэтага дня і далей я памятаю ўсё вельмі добра, да дробязяў. Я разумела, што так можа быць – у нас можа быць хворае дзіця, але я не хацела з гэтым мірыцца, не хацела гэта прымаць. Першы час я пераконвала сябе, што ўсё гэта памылка, што дактары проста перабольшваюць. Сябры ахвотна падтрымлівалі гэту ідэю, хаця насамрэч, напэўна, проста баяліся гаварыць, што можа быць інакш. Многія, хто даведаўся, казалі: нікога не слухай, усё будзе добра, яны ўсіх так пужаюць. Зараз я разумею, што лепш было б казаць, што ўсякае можа быць – што дзіця можа быць хворае, а можа нават памерці. Гэта было б праўдзіва. Адна наша сяброўка ў гэты час падаравала мне фігурку – далоньку, на якой ляжыць маленькая перліна, і сказала, што гэта рука Бога і што мы з Янкам заўсёды на Ягонай далоні. Гэты просты сімвал падтрымліваў мяне тады і зараз падтрымлівае.

Пасля другога УГД, калі дыягназ пацвердзіўся, мне здалося, што я губляю сувязь з рэальнасцю, губляю розум. Я бегала па кватэры, плакала да знямогі, штосьці шаптала і малілася так горача, як ніколі ў жыцці. Але ніякай палёгкі, суцяшэння ці абнадзейвання не адчула. Я стала шмат чытаць, шукала падобных гісторый. Мне патрэбна было ведаць, што я не адна такая, што хтосьці ўжо праз падобныя цяжкасці прайшоў. Ува мне ішло змаганне: даверыцца Богу, але трываць у няведанні ці прызнаць, што ўсё безнадзейна, але здабыць пэўнасць. Гэта быў нялёгкі выбар.

Усё было няпроста. Зараз, азіраючыся на гэтыя месяцы чакання, я бачу шмат светлага – жыццё ішло далей. Мы з мужам ездзілі адпачываць, падарожнічалі, прымалі гасцей. Паша прэзентаваў кнігу па Беларусі, я часам суправаджала яго на прэзентацыях, калі не, то мы з Янкам чакалі тату дома, рыхтаваліся, а потым доўга размаўлялі. Мы шмат маліліся разам, радаваліся разам, калі было сумна, то сумавалі таксама разам. Хадзілі на курсы па падрыхтоўцы да сумесных родаў. Я працягвала займацца валанцёрствам. Ёсць нават здымак, дзе я, ужо добра пузатая, сяджу, размаляваная вавёркай, – дзеці з прытулку падыходзілі да мяне і тыкалі пальчыкамі ў жывот, пытаючыся, ці ён сапраўдны альбо там падушка. Радасці было многа, не менш, чым смутку. Дзесьці глыбока-глыбока я адчувала: усё, што са мной адбываецца, мае сэнс.

З іншага боку, было вельмі шкада сябе, усё было незразумела, было таксама крыўдна: чаму так менавіта з намі? Я не магла прызвычаіцца да думкі, што, магчыма, усё жыццё прыйдзецца жыць з непаўнасправўным. Перажывала за Пашу, як будзе яму. Гэта было змаганне ў маёй душы.

Было няпроста яшчэ і ад таго, што амаль у кожным кабінеце нам казалі, што трэба рабіць аборт. Аборт, аборт, аборт… І нідзе ні слова пра жыццё. Нам нават дадому званілі і пыталіся, ці не перадумалі мы. Гэта працягвалася ўсю цяжарнасць, нават калі я прыехала ў радзільню, адно з першых пытанняў было: чаму не рабілі аборт? Я казала, што аборт – гэта забойства, дактары саромеліся і апускалі вочы, а я ў сэрцы здзіўлялася, як мала людзі ведаюць Бога.

...Янка нарадзіўся на трыццаць чацвёртым тыдні. Я нечакана моцна захварэла. Пашы дома не было, якраз паляцеў у Чэхію на прэзентацыю. Страху я не адчувала, толькі вельмі хвалявалася. З гэтага дня ўсё памятаецца вельмі востра – пахі, колеры, святло і цені, адчуванні, гукі. Я цэлы дзень дапрацоўвала адзін матэрыял – хацела паспець да Пашавага прыезду. А перад самым сном паставіла допіс пра паход у Дом малюткі і малюнак – маленькая ручка дзіцяці трымаецца за дарослага.

Воды адышлі ноччу. Я ведала пра дыханне. Старалася супакоіцца. У радзільні мне не хапала мужа, хацелася, каб ён быў побач і дапамог мне, хацелася трымаць яго за руку. Памятаю, у палаце было халоднае цёмнае акно, я ў яго глядзела і бачыла сябе. Дактары перашэптваліся, вырашылі рабіць кесарава – былі паказанні. Мяне паклалі на стол, рукі развялі ў бакі і прывязалі, а жывот закрылі белай палатнінай, каб я нічога не бачыла, але ўсё і так было бачна ў адлюстраванні з круглых лямпаў над сталом.

Калі я заплюшчваю вочы, то магу ўзгадаць той час па хвілінах: я была адна, усё ішло не так, як я чакала, здзяйсняліся самыя страшныя рэчы, але маё ўнутранае адчуванне з таго моманту – яно светлае. Гэта не зразумела мне самой. Я не хачу сказаць, што мне было лёгка, але мацней за ўсе іншыя адчуванні была любоў да сыночка, упэўненасць і спакой. На нейкае імгненне, калі я ляжала з раскінутымі ў бакі рукамі, мне нават здалося, што маё цярпенне зліваецца з цярпеннем Божым.

Яначка не плакаў, ён штосьці, як птушаня, праспяваў, і яго бягом забралі. Я нічога не паспела пабачыць, абняць яго, мяне трэсла ад анестэзіі, я магла толькі маліцца.

Паша прыляцеў раніцай. Яго пусцілі да Янкі. Сказалі, што патрэбна аперацыя на жывоціку, на сэрцы. Мяне пасля кесарава перавялі ў рэанімацыю, ад анестэзіі было вельмі холадна, я ляжала, напэўна, пад пяццю коўдрамі, хаця ў палаце было горача. Праз пару гадзін, калі прайшла анестэзія, сказалі патрошку ўставаць і хадзіць. Было балюча. Яшчэ праз пару гадзін перавялі ў палату. Памятаю, што я нават паспела да ранішняга прагляду ўстаць і прывесці сябе ў парадак. Часу, каб расслабляцца ці шкадаваць сябе, не было. Мне здавалася, што мае выпрабаванні нішто ў параўнанні з тым, што зараз адчувае Янка.

Я ведаю, што Пашу таксама было цяжка, не лягчэй, чым мне, але ён знаходзіў у сабе сілы суцяшаць мяне: клапаціўся, перадаваў кветкі, па вечарах, калі ішоў да Янкі, запальваў пад вокнамі бенгальскія агеньчыкі, часта заставаўся ў корпусе, дзе быў Янка, на ўсю ноч – проста, каб быць побач. Гэта выпрабаванне з'яднала нас моцна.

Вельмі моцна падтрымлівалі таксама сябры – тэлефанавалі, прыходзілі да радзільні, каб памаліцца за нашага Янку, імгненна даставалі нейкія патрэбныя рэчы, варылі булёны і кампоты. Яны перажывалі разам з намі.

Мне здаецца, чым бліжэй я была да выпрабаванняў, тым бліжэй да Бога. У некаторыя моманты Гасподзь быў так блізка, што, здавалася, да Яго можна дакрануцца. Я ўзгадваю адчуванне напоўненасці, прысутнасці Божай і сваёй мізэрнасці. І я ведаю, што толькі дзякуючы таму, што мяне падтрымліваў Бог, я змагла гэта ўсё перажыць. Я ведала, што Гасподзь сумуе разам са мной, я гэта адчувала.

У гэтыя дні мне часта траплялісь адны і тыя ж радкі з псалма: "З вуснаў дзяцей і немаўлятак Ты зладзіў хвалу, дзеля ворагаў Тваіх, каб знямовіць мсціўцу і ворага. Калі я гляджу на нябёсы Твае – твор Тваіх рук, на месяц і зоркі, якія Ты паставіў, дык што ёсць чалавек, якога Ты памятаеш, і сын чалавечы, якога наведваеш Ты?"

Мы пахрысцілі Янку на пяты дзень. Пасля гэтага яму стала лепш, і адна з дактарак нават казала, што бачыць падобныя змены ў такой хваробе ўпершыню. Але ў адзін з вечароў Паша патэлефанаваў і сказаў, што Янку зноў стала горш і што дактары сказалі развітвацца. Я не магла гаварыць ад слёз. Калі прасіла ў радзільні загадчыцу выпусціць мяне развітацца з сынам, пісала на паперы. Баялася напужаць мужа і баялася, што мяне нікуды не выпусцяць, напілася валяр'янкі. Доўга блукала па паверхах радзільні – шукала выхад, ніхто не верыў, што жанчына пасярод ночы можа з радзільні кудысьці выйсці.

Калі я першы раз убачыла сыночка, то зразумела, што якім бы хворым Янка ні быў, якія б цяжкасці нас наперадзе ні чакалі, ён – дар Божы. Дзеці – гэта дар Божы. Янка быў увесь светлы, быццам залаты, і калі б не ўсе трубкі і іголкі, можна было б падумаць, што ён проста спіць. Мы стаялі з Пашам, любаваліся ім і ціха маліліся. Я не плакала.

Янка пражыў восем дзён. У апошні дзень мы з Пашам таксама былі ў яго, на вуліцы было пахмурна і холадна. Мы не ведалі, што бачым Яначку жывым апошні раз. Мы зноў маліліся і разам з нашай малітвай на небе праяснілася і з'явілася сонца – было ўражанне, што чым мацней мы молімся, тым святлей становіцца. Калі мы вярнуліся ў шпіталь вечарам, нам сказалі, што Янка памёр.

Я першы раз так блізка бачыла смерць – яна стала для мне бліжэй, але бліжэй стала таксама і неба. А смерць нішто ў параўнанні з небам.

Янку хавалі 23 снежня, і дзень быў сонечны, неба было блакітнае, а калі ехалі на могілкі, на небе з'явілася вясёлка. Я першы раз бачыла на небе вясёлку зімой.

***

Зразумець, чаму менавіта табе дадзены гэты досвед, няпроста. Прайшло два гады без Янкі, я патрошку заўважаю, дзеля чаго ўсё так, але застаецца шмат рэчаў, якія я не зразумею хіба што ніколі і не забуду ніколі. Многія з успамінаў прычыняюць мне боль. Але зараз, калі пішу, узгадваю, стараюся адчуць усё зноў – я ўсміхаюся.

Гэта гісторыя мусіла быць цёмнай, але Гасподзь усё ўмее перамяніць на святло. Янка стаўся нашай надзеяй, ён сам быў тым цудам, якога мы так прасілі.

Зараз я ўжо ведаю, што ў жыцці можа быць па-рознаму, але я ведаю таксама, Хто заўсёды будзе побач. "Няхай не сумняваецца сэрца вашае; веруйце ў Бога і ў Мяне веруйце" (Яна 14:1).

**P. S.** *У Янкі было негенетычнае захворванне – сіндром Патау, адзін выпадак на чатырнаццаць тысяч. І я дзялюся гэтай гісторыяй толькі для таго, каб тыя, хто зараз патрабуе сведчання, пачулі, што Гасподзь блізка.*

**Вольга СЕВЯРЫНЕЦ.**

*(Krynica.info)*

